


# Наша Слова

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 40 (304) 3 — 9 кастрычніка 1996 г. Кошт — 1000 рублёў






СВАБОДНАЕ СЛОВА Стар.2.

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ВОЙСКА Стар.4.


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў у сваёй рэзідэнцыі** пераможцаў і прызёраў конкурсу на лепшы тлумачальны тэкст да Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга краіны. Вынікі творчай працы будуць апублікаваныя асобным зборнікам, а таксама ўвойдуць у школьныя падручнікі. Дарэчы, у конкурсе прыняло ўдзел усяго толькі 27 работ. Цікава, што там за шэдэўры нашым дзецям давядзецца вучыць напамяць?

○ ***Пасля праведзенага на чарговым пасяджэнні калегіі Кабінета Міністраў зацвярджэння ўзору новага пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь** у выдавецтве "Беларускі Дом друку" пачнецца іх выпуск. У месяц будзе вырабляцца да 200 тысяч пашпартоў. За атрыманне новага пашпарта неабходна будзе заплаціць 30 тысяч рублёў. Нешта вельмі танна...*

○ **Нарэшце зарэгістравана Таварыства беларускай школы.** Канцылярыя ТБШ размясцілася ў будынку сталічнай СШ № 2, што на праспекце Ракасоўскага. Кантактныя тэлефоны — 248-32-02 і 232-47-01. На пачатку лістапада Таварыства плануе арганізаваць "круглы стол" і абмеркаваць на ім прапанаваную нядаўна канцэпцыю рэформы агульнаадукацыйнай сярэдняй школы.

○ ***Старшыня Дзяржкамдруку Уладзімір Бельскі наведаў Страсбург.** Вынікам паездкі стала дамоўленасць па ўключэнні Беларусі ў інфармацыйную камп'ютарную сетку Савета Эўропы, а таксама друкаванне беларускіх кніг за мяжою. Дзяржкамдрук збіраецца адкрыць у Менску кнігарню "Замежная кніга". Ёсць і іншыя задумы, на якія, каб ажыццявіць іх, патрэбны замежныя інвестыцыі. У.Бельскі спадзяецца іх атрымаць. Нядрэнна было б...*

○ **Беларуская парламенцкая дэлегацыя наведала Страсбург** і сустрэлася з прэзідэнтам Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Лені Фішар, якой былі перададзены 2 праекты Канстытуцыі, вынесеныя на рэферэндум. Нягледзячы на тое, што члены беларускай дэлегацыі спрабавалі давесці, што ў нашай краіне ўсё нармальна з дэмакратыяй, Беларусь не спяшаюцца прымаць у Савет Еўропы.

○ ***У Менску прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Пісьменнік, мова, стыль"**, якую арганізавалі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт і Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт. Канферэнцыя была прысвечана 70-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага вучонага, доктара філалагічных навук прафесара Льва Шакуна. Акрамя вучоных і даследнікаў нашай краіны, у канферэнцыі ўдзельнічалі госці з Расіі і Польшчы.*

○ **У Гародні адкрыта школа**, дзе ўсе прадметы (за выключэннем беларускай і расійскай мовы і літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі) будуць выкладацца папольску. Добра, каб яшчэ ў Гародні адкрываліся цалкам беларускія школы!

○ ***З друку стала вядома**, што дзесяць працэнтаў ад агульнай колькасці работнікаў у студзені-ліпені працавалі ў рэжыме няпоўнага працоўнага часу, а 447,7 тысячы чалавек (11 працэнтаў) знаходзіліся ў вымушаных адміністрацыйных водпусках.*

○ **У Міністэрстве працы Беларусі ёсць прадстаўленыя Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук** даныя аб тым, што ад 10 да 30 працэнтаў працаздольнага насельніцтва нашай краіны мае жаданне ехаць у пошуках работы за мяжу. Але ці дастаткова аднаго жадання, каб выехаць за мяжу і да ўсяго атрымаць там добрую працу?

○ ***У Гданьску адбыўся III фестываль нацыянальных меншасцяў у Польшчы.** Сёння ў Польшчы жыве каля 650 тысяч немцаў, 450 тысяч беларусаў, 300 тысяч украінцаў, 15 тысяч летувісаў. Беларусаў на фестывалі прадставіла грамадска-культурнае таварыства "Хатка".*

## Кангрэс як супрацьвага Сходу

Аргкамітэт па правядзенні Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры закончыў падрыхтоўчы этап, вынікі якога былі падведзеныя на прэс-канферэнцыі, наладжанай прадстаўнікамі кангрэса Аляксандрам Бухвоставым, Уладзімірам Анцулевічам і Аляксандрам Фядутам.

Першапачаткова кангрэс планавалася правесці 26 кастрычніка, але на адным з пасяджэнняў дата была зменена на 19 кастрычніка: на той самы дзень, калі А.Лукашэнка збірае свой "Народны сход".

Як адзначылі прадстаўнікі аргкамітэта, ёсць небяспека, што на гэтым сходзе будзе зроблена спроба дзяржаўнага перавароту і роспуску Вярхоўнага Савета.

Пра сваю падтрымку кангрэса заявілі амаль усе буйныя палітычныя партыі краіны і прафесійныя саюзы. Чакаецца і выступ на ім старшыні парламента Сямёна Шарэцкага.

Прыкладная колькасць удзельнікаў — каля 1000 чалавек — хоць будзе і меншая за "бацькава веча", але, апрача кангрэса, плануецца правядзенне шматтысячнага мітынгу ў абарону Канстытуцыі, які ўлады магчыма паспрабуюць разагнаць сілай — адзначылі арганізатары кангрэса.

**P.S.** Аргкамітэт Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры паведаміў, што па прапановах грамадскіх арганізацыяў, якія выказалі жаданне ўдзельнічаць у кангрэсе, кангрэс пачынаецца **18 кастрычніка ў 13 гадзін**. Раніцай 19 кастрычніка кангрэс працягне сваю работу, а з 11 гадзін дэлегаты возьмуць удзел у маніфестацыі і мітынгу. Вызначана месца правядзення кангрэса — Рэспубліканскі палац культуры прафсаюзаў (Менск, пр.Ф.Скарыны, 25). У Менгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне шэсця і мітынгу 19 кастрычніка. Збор удзельнікаў маніфестацыі плануецца ў 10.30 на плошчы Якуба Коласа.

**А.Н.**

## БНФ не прымае "нулявога варыянта"

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту негатыўна ставіцца да ініцыятывы нулявога варыянта парламенцкіх фракцый камуністаў і аграрыяў, які прадугледжвае адкліканне прэзідэнцкага і парламенцкага праектаў Канстытуцыі і стварэнне пагаджальнай камісіі для выпрацоўкі кампрамісная варыянта.

На праведзенай 23 верасня ў штаб-кватэры БНФ прэс-канферэнцыі Лявон Баршчэўскі, Вячаслаў Сіўчык і Вінцук Вячорка заявілі, што гэтая перадышка будзе на карысць сённяшняму рэжыму, бо Лукашэнка ўсё роўна не адмовіцца ад ідэі канцэнтрацыі ў сваіх руках абсалютнай улады. З Лукашэнкам немагчыма дамовіцца, бо любы кампраміс ён разглядае, як праяву слабасці, і гэтыя перамовы могуць толькі закансерваваць сітуацыю на 1-2 месяцы.

Разам з тым кіраўнікі БНФ не адмаўляюцца ад ідэі "круглага стала", але калі пагадненне з выканаўчай уладай будзе дасягнута, у пасяджэннях "сямёркі" будуць браць удзел толькі шэраговыя функцыянеры БНФ.

Зараз Народны Фронт рыхтуецца да буйной палітычнай акцыі 19 кастрычніка. У дзень адкрыцця так званага "Народнага сходу" апазіцыйныя сілы плануюць правесці шматтысячны мітынг у абарону Канстытуцыі.

**Язэп СІНІЦКІ.**

*У газетах*

## Зінаіда Браварская— жывая гісторыя Купалаўскага тэатра

*З інтэрв'ю юбіляркі "Белорусской ниве"*

— "Сыграла я ў ТЮГу дзве ролі, але папрацавала там толькі тры месяцы, бо мяне запрасілі ў Купалаўскі тэатр. Было гэта ў 1937 годзе. З таго часу гэты любімы мною тэатр зрабіўся маім жыццём і маёй сям'ёй... Калі ж узяць, напрыклад, перыяд з 1953 года, дык у ліку найбольш значных маіх прац трэба зазначыць ролю Юлечкі ў спектаклі па п'есе Астроўскага "Даходнае месца". Іграла я разам з такімі цудоўнымі акцёрамі, як Барыс Платонаў, Лідзія Ржэцкая. Шчасцем было працаваць таксама з выдатнымі нашымі майстрамі Паўлам Малчанавым, Леанідам Рахленкам, Іванам Шацілам..."

**("Белорусская нива", № 203, 1996 г.)**

*Маладая Беларусь*

## "Чырвоны жонд"

*Арганізацыя "Чырвоны жонд", якую ў 1992 годзе стварыў, узначаліў і зарэгістраваў як першасную суполку ЛКСМБ Алесь Шавель, праіснавала нядоўга. Пасля таго, як яе кіраўнік перасеў у крэсла ў Камітэце маладзёжных арганізацый — яшчэ адным прыдатку камсамола, сябры "Чырвонага жонду", якіх не налічвалася больш двух дзесяткаў, забыўшы пра яго, занялiся кожны сваёй справай. Арганізацыя існавала адно на паперы.*

*Але сёння "Чырвоны жонд", захаваўшы старое імя, але набыўшы новае аблічча, дзейнічае. Пад яго дахам сабраліся іншыя, далёкія ад камсамольскага руху, людзі. З адным з іх — Паўлюком Канавальчыкам, выпускніком Беларускага эканамічнага універсітэта і старшынём "Чырвонага жонду", сустрэўся наш карэспандэнт.*

**— Вашая арганізацыя — маладзёжная. Што ўяўляе сабою сённяшняя беларуская моладзь?**

— Сёлета гэтае ж пытанне паставілі перад сабою многія. Прычынаю таму стаў масавы ўдзел маладых у грамадскіх акцыях, што адбываліся ў першай палове года. Гэты ўдзел набываў формы, часам абсалютна нечаканыя для ўсіх удзельнікаў грамадскіх спрэчак. Бо дагэтуль лічылася, што грамадскай ці палітычнай актыўнасці моладзь не выказвае, хіба што нязначная яе частка можа далучыцца да той ці іншай палітычнай плыні, створанай раней старэйшым пакаленнем.

Падзеі гэтай вясны яскрава засведчылі: моладзь мае ўласныя погляды на жыццё, уласныя ў ім мэты і ўласныя сродкі іх дасягнення. І гэта не дзіўна: пакаленне, да якога належу і я, вырасла ў іншых умовах, чым нашыя бацькі. Мы не маем досведу саступак ці жыцця пад ідэалагічным кантролем.

Але мы ўсё больш адчуваем сваю залежнасць ад урада, які стварае для маладых усё новыя праблемы ў сферы аду-

*(Заканчэнне на с.8.)*





Свой васемнаццаты навучальны год сярэдняя школа № 12 — тая, першая ў мікраараёне, што сёння раскінуўся ад Пятроўшчыны да Малінаўкі па Берасцейскай шашы і ўздоўж кальцавой дарогі, дзе жыве ўжо звыш пяцідзесяці тысяч жыхароў і дзейнічае 30 школ,— сёлета пачала ў статусе гімназіі.

— У школе склаўся дружны калектыў высокакваліфікаваных педагогаў, якім пад сілу навучанне дзяцей па больш насычаных праграмах,— гаворыць дырэктар ужо гімназіі Кацярына Пятроўна Пятруша,— выпуск маладых людзей, добра падрыхтаваных да жыцця.

**Пётра ПАБОКА, БелТА.**

**На здымках:** "Класныя дамы" **М.Плакса і В.Рудоквас** — выкладчыцы беларускай і англійскай моваў. Юныя гімназісты.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

*Радзім ГАРЭЦКІ, віцэ-прэзідэнт АН РБ*

# Свабоднае слова

Слова можа быць самым розным. Але свабоднае слова — гэта слова сумлення, шчырасці, боскасці. Яно ідзе ад сэрца, ад чыстай душы. Асабліву крыштальнасць і яскравасць такое слова атрымлівае тады, калі яно гаворыцца ці пішацца на роднай матчынай мове, якая, як кожная клетачка цела чалавечага, магутнымі генамі перадалася ад маці, ад роднай зямелькі, ад кута роднага, ад народа і Бацькаўшчыны.

Хлуслівае слова, слова дэмагогіі і хітрасці, здрады і зайздрасці, подласці і подкупу не належыць да слова свабоды, бо яно ўжо нясе ў сабе гэтыя адмоўныя якасці няволі — прымус вонкавы і ўнутраны, уціск пачуццяў.

Свабоднае слова не можа ісці ад чалавека несвабоднага, баязлівага, няшчырага, з рабскім пачуццём у сэрцы. Яго вымаўляе толькі той чалавек, які заўсёды застаецца самім сабою, які стараецца не здавацца, а быць. А як гэта не проста ажыццявіць у наш час і час нядаўняга мінулага!

Сапраўдная дэмакратыя можа быць толькі пры свабодзе слова. Дыктатарскае слова таталітарызму — слова прымусу, дэмагогіі і хлусні. Яскравым паказчыкам дэмакратыі можа служыць ступень свабоды сродкаў масавай інфармацыі — чым яна большая, тым болей і дэмакратычных свабод у краіне.

Амаль кожная ўлада не можа заўсёды гаварыць шчырае свабоднае слова і таму не надта любіць свабоду слова. Асабліва яно ненавіснае каманднa-адміністратыўным, таталітарным, дыктатарскім сістэмам. Пасля многіх дзесяцігоддзяў хлуслівых слоў бальшавіцкай улады мы нарэшце з вялікай радасцю пачулі словы праўды, якія так дапамагалі нам, наскрозь прасякнутым рабскім станам, выціскаць з сябе па кроплі гэтае зневажаючае нас, але такое прывычнае пачуццё. На жаль, мы не паспелі дастаткова поўна гэта зрабіць.

У апошнія два гады ў Беларусі мы зноў аказаліся пад уціскам слова змрочнага, якое становіцца ўсё больш патрабавальным, дыктатарскім. Яго аўтар лічыць, што толькі яно правільнае, заканадаўчае. Хаця мы ўжо не адзін раз былі сведкамі імгненнай змены зместу гэтага слова і часта нават на супрацьлеглы сэнс. Гэтае слова парушала Канстытуцыю краіны, ухваляла гітлераўскі парадак, самадурна закрывала газеты і змяняла іх галоўных рэдактараў, давала хлуслівыя абяцанкі-цацанкі, здзекавалася з матчынай роднай мовы і г.д. А, як казаў Іван Мележ, той, хто не паважае родную мову, не паважае родны народ. А другі класік падкрэсліваў, што шалёны той, хто не можа кіраваць сабой, сваім словам, а хоча кіраваць іншымі.

Гэтае слова пагнала нас на адзін рэферэндум, які забараніў нашы гістарычныя сімвалы і зноў загнаў родную мову ў цесны кут, а цяпер заве на новы рэферэндум, які адкрывае вароты да поўнай дыктатуры. А тады мы чулі такога ж голасу крыклівыя словы пра "царскую" ўладу, які даваў першы рэферэндум. Няўжо мала царскай? Якую ж патрэбна? Няўжо мы забыліся, што іменна шляхам рэферэндумаў у нашым стагоддзі прыйшла да поўнай улады адна з найбольш крывавых дыктатур Еўропы, якая нарабіла столькі бед і гора ўсяму свету?! Ды і другая не менш крывавая дыктатура, якая прыйшла да ўлады шляхам рэвалюцыі, потым не адзін раз карысталася для апраўдання сваіх жудасных дзеянняў "усенароднай" згодай вялікай краіны.

Наша інтэлігенцыя, якая па сутнасці заўсёды была разнастайнай, пад націскам бальшавіцкай улады зрабілася афіцыйна аднадушнай. Цяпер яна прыкметна разблакіравана. На жаль, значна меншая яе частка застаецца нацыянальна свядомай, вернай ідэям беларускага Адраджэння. Яе свабоднае слова слаба даходзіць да народа. Яно мала гучыць па радыё і тэлебачанні, бо туды ўладамі амаль зусім не дапушчаецца. Газеты з такім шчырым словам уціскаюцца, а многія беларускамоўныя, к таму ж і вельмі малатыражныя, адвучылі людзей ад роднай мовы.

Затое значна больш інтэлігенцыі з блокаў напужаных маўчальнікаў ці прыстасаванцаў-флюгераў, гатовых служыць любой уладзе, якая цяпер моцная. Тут ёсць розныя групы: адных — улады прыгрэлі, даўшы добрае месца; другіх — адарылі прэміямі ці званнямі; трэціх — абяцалі не чапаць і фінансаваць, калі будуць паслухмянымі, і г.д. І глядзіш, змяніўся чалавек: гаварыў словы свабодныя, а зараз — толькі тыя, якія патрэбныя, і нават мовай роднай ужо не карыстаецца, каб падабацца ўладам (а то яшчэ палічаць нацыяналістам!)

Сярод такой інтэлігенцыі заўсёды многа было людзей з "дзвюма душамі", а зараз развялася значная колькасць і "мнагадушных". Адзін на адзін ён гаворыць з табой адно, на калідоры, гледзячы з якой кампаніяй,— другое ці трэцяе, афіцыйна — ужо пускае ў эфір новае хлуслівае слова — толькі, каб падабалася наверсе. Сёння ён складае добрыя словы ў адну Канстытуцыю, заўтра ўжо падбірае патрэбныя для гаспадара словы — пад другую. Любімае слова такога чалавека: "адабрям-с". Прыкладам такога блоку інтэлігенцыі можа быць нядаўняя "первая конференция Белорусского профессорского собрания", на якой не прагучала ніводнага беларускага слова (калі не лічыць некалькіх слоў, якія ўжо па звычцы перадражніў дэмакратаў ініцыятар рэферэндуму), а галоўны матыў выступаючых: "адабрям-с".

А ёсць яшчэ навуковыя словы розуму, да якіх трэба тэрмінова прыслухацца ўсім людзям на Зямлі і перш-наперш уладам усіх краін свету. Навукоўцы прыйшлі да пераканання, што калі чалавецтва будзе жыць так, як яно жыве сёння, дык цывілізацыя чалавечая не перажыве і некалькіх пакаленняў. Справа ў тым, што страшэнная дэградацыя навакольнага асяроддзя (ужо на мяжы экалагічнай катастрофы), выбухападобны ўзрост колькасці насельніцтва на планеце, жудаснае і вельмі шыбка ўзрастаючае сацыяльнае расслаенне насельніцтва свету і іншыя негатыўныя працэсы прывялі чалавецтва на парог крытычнага перыяду ў гісторыі цывілізацыі — на парог агульнай катастрофы. Патрэбная каардынальная змена сучаснай парадыгмы развіцця чалавецтва, патрэбная новая канцэпцыя ўстойлівага развіцця, якая забяспечыць жыццёвыя патрабаванні сучаснай супольнасці людзей і не будзе перашкаджаць такой жа магчымасці для будучых пакаленняў! Усё гэта магчыма толькі пры свабодзе слова ва ўсіх краінах свету. Жыве свабоднае слова, якім будуць карыстацца і ўлады, і ўвесь народ! Няхай жыве і пашыраецца свабоднае слова і ў Беларусі!

---

*Актуальна!*

## Алесь Станкевіч:
# “Беларускае войска павінна быць беларускім!”

Кіраўнік патрыятычнага руху Беларускае згуртаванне вайскоўцаў Алесь Станкевіч лічыць, што кадравы склад Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь знаходзіцца ў стане глыбокага маральнага і духоўнага крызісу.

Скандальныя выкрыванні злодзеяў у пагонах, якія на многія мільёны долараў раскралі армейскай маёмасці і рыштунку... Дзедаўшчына... Пратэкцыянізм... На вялікі жаль, шматлікія "хваробы" нашага сённяшняга грамадства нібыта прадубліраваныя і ва Узброеных Сілах.

І сёння, па меркаванні Алеся Станкевіча, згаданы крызіс не адолены, калі меркаваць хаця б па тых надзвычайных здарэннях і скандалах, пра якія сёлета згадвалі мясцовыя і цэнтральныя газеты. Гэта "выбракоўка" па стану здароўя каля 40 маладых дэсантнікаў з Мар'інагорскай мабільнай брыгады, самагубства навабранца Курсо ў адной з вайсковых частак пад Менскам, адмова выдаліць з пад'язных чыгуначных шляхоў Барысава пяць цыстэрнаў з атручвальным рэчывам — дыхларытанам,— што смяротэльна ўплывае на экалогію, на ўсё жывое. Нарэшце, гэта зусім нядаўні пажар на артылерыйскім складзе ў Шышчыцах на Случчыне, дзе некалькі дзён рваліся снарады і толькі выпадкова справа абышлася без ахвяраў. Сюды ж можна аднесці і абнародаваную Міністэрствам абароны змрочную статыстыку: сёння на кожную тысячу вайскоўцаў прыходзіцца каля пяці выпадкаў злачынстваў.

Алесь Станкевіч, аналізуючы памянёныя ды іншыя факты, сцвярджае: каб беларускае войска магло пазбавіцца ад расхістанасці, недысцыплінаванасці ды іншых заганаў, яму моцна бракуе любові да падабаронных УС беларускага народа і беларускай зямлі. Карацей, таго, што называецца патрыятызмам. Справа іншым разам даходзіць да смешнага, заўважае Алесь Станкевіч.

...У сярэдзіне верасня першакурснікі Вайсковай Акадэміі прымалі прысягу на вернасць Айчыне. Прысутны тут міністр абароны, зразумела, звярнуўся да будучых афіцэраў з бацькоўскім словам. Выразы "абаронцы Радзімы", "гарант незалежнасці і бяспекі Радзімы" і да т.п. гучалі ці не ў кожнай фразе кароткай прамовы.

Якую ж Радзіму меў на ўвазе Леанід Мальцаў, які ў сваім выступе ні разу не згадаў эпітэт, звязаны з назовам нашай краіны, з Беларуссю?

А святар, старшыня дэпартамента знешніх сувязяў Беларускага экзархата Рускай Праваслаўнай Царквы протаіерэй Фёдар Полны, а ён таксама выступіў з прамовай перад курсантамі, адказаў на гэта так (цытую на мове выступоўцы, а беларуская ўвогуле не гучала):

— Генералиссимус Суворов учил своих воинов: "Чудо-богатыри, опора Отечества! С нами Бог. Молитесь Богу — от него победа..."

Святар, прамаўляючы такое, паводзіў сябе так, быццам прысягу прымалі не будучыя беларускія афіцэры, а будучыя — расійскія, скажам,— у Разані ці ў Камышыне, дзе Аляксандр Сувораў сапраўды быў патрыётам Расійскай імперыі, асобай, аддадзенай умацаванню моцы манархіі ў Еўропе. Для беларусаў гэта быў кат, што задушыў паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, той, хто загадваў спальваць беларускія вёскі, інструмент, з дапамогай якога Кацярына Другая скаланізавала Вялікае Княства і Польшчу ды цэлыя вёскі, населеныя беларусамі, запрыгоніла і падаравала сваім верным слугам, у тым ліку Аляксандру Сувораву. Нават класікі марксізму гэта згадвалі з абурэннем.

Што ж, урэшце, адбываецца з выхаваннем патрыятычнай беларускай самасвядомасці ў беларускім войску?

Я папрасіў дазволу ў Алеся Станкевіча ягоны адказ запісаць на дыктафон:

— Яшчэ ў 1992 годзе, калі ўзнікла свята Беларускай вайсковай славы, у Міністэрстве абароны ў гэтым напрамку нешта рабілася. Вывучалася, напрыклад, кадравым складам беларуская мова, стваралася новая армейская сімволіка, пераглядаліся вайсковыя статуты, распрацоўваўся спецыяльны слоўнік. Але потым, без усялякіх на тое падстаў, "беларусізацыя" ва Узброеных Сілах згарнулася, а пасля мінулагодняга травеньскага рэферэндуму зусім зачахла. Цяпер ніхто з кіроўцаў Мінабароны ні па радыё, ні ў газетах нават не згадвае пра тыя заняткі па беларускай мове... Беларускае войска па-ранейшаму ачаляецца старэйшымі афіцэрамі, сярод якіх беларусаў меншая частка і якія там з усяго белага свету. Дык ці будзе ў іх балець сэрца за Беларусь? Я пад час нядаўняга свята Беларускай вайсковай славы размаўляў з адным знаёмым афіцэрам. Ён сказаў мне: "Пра які патрыятызм ты гаворыш. Алесь, калі зараз мае калегі спяць і ў сне бачаць, што ўсё аднавіцца, што будзе адзінае, як некалі, войска?"

Карацей, зрабіў выснову Алесь Станкевіч, Беларускае войска ў асобе значнай часткі старшага афіцэрства гатова хутчэй зліцца ў "братніх" абдымках з УС Расіі, чымся выхоўваць у кадравым складзе патрыятызм. А што думаюць на гэты конт самі салдаты-беларусы, нікога не цікавіць. Ім будуць загадваць і ўсё.

Да сказанага можна дадаць, што БЗВ у вайсковыя часткі нават блізка ніхто не падпускаюць. Прапаганду любові да Беларусі, яе мовы, культуры, старажытных беларускіх вайсковых традыцыяў ідэолагі гэтай сілавой структуры лічаць палітычнай дзейнасцю, праявай нацыяналізму.

Але ж ва ўсіх краінах, нагадвае Алесь Станкевіч, нацыянальная ідэя заўсёды мае найбольш моцнае апірышча менавіта ва Узброеных Сілах, афіцэрскім асяроддзі. Менавіта на ёй грунтуецца патрыятычны дух вайскоўца.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

---

*Меркаванні*

# Спроба асэнсавання двухмоўных выбрыкаў

*Газетнае двухмоўе, што гэта — дзівосны парадокс нашага часу, чыясьці кемлівая выдумка ці адлюстраванне моўных суадносінаў у нашым грамадстве зараз? А можа проста часовае прымірэнне канфліктуючых бакоў сёння і міна пад беларускую мову на заўтра?*

Ужо каторы год у нашай дзяржаве існуе так званае газетнае двухмоўе, як сацыяльная з'ява, а спробаў асэнсаваць яго няма. Ніхто не прааналізаваў гэтую практыку, не прыйшоў хоць да нейкай высновы ды не зрабіў уласны прагноз на будучае. Ніхто не паспрабаваў галосна сказаць, як варта ставіцца да газетнага двухмоўя: хваліць ці ганіць, падтрымліваць ці супраціўстаяць. І як гэтая практыка паўплывае на беларускую мову ўвогуле: паспрыяе адраджэнню ці дапаможа знішчальнікам яе. Заявы даволі аўтарытэтных людзей з беларускага асяроддзя, якія прагучалі ў свой час у падтрымку двухмоўя, — не будзем заплюшчваць вочы — мелі палітычнае адценне. Шмат хто напярэдадні выбараў спадзяваўся такім чынам заваяваць галасы расійскамоўнай часткі насельніцтва.

З'ява ў свой час "Народнай газеты", якая, пэўна, была адным з самых першых шматтыражных выданняў, што друкуюцца зараз на расійскай і беларускай мовах, была водгукам на ідэю двухмоўя, што, па задумцы тагачасных лідэраў КПСС, мела быць ва ўсіх рэспубліках былога СССР, каб хоць неяк зняць вастрыню нацыянальнага пытання.

Хутка знайшліся паслядоўнікі. І даволі шмат. Я наўмысна не прыводжу тут іх пералік, але заўважу, што карыстацца двухмоўем распачалі газеты, якім наканавана быць беларускамоўнымі. Іншыя тутэйшыя газеты, якія друкаваліся на расійскай мове, але прытрымліваліся артадаксальных камуністычных пазіцый, ужываць двухмоўе не сталі. Напачатку не ўсё было дрэнна ў гэтай справе. Як станоўчы прыклад, скажам, расійскамоўныя рэгіянальныя (абласныя) выданні, раённыя і ведамасныя газеты распачалі змяшчаць на сваіх старонках артыкулы і карэспандэнцыі на роднай мове, але толькі не матэрыялы аналітычнага зместу.

Асноўная частка перыядычных выданняў, што пабачыла свет пачынаючы з 1991 года, і па сённяшні дзень крочыць пад сцягам двухмоўя.

Аднак, як заўжды, час уносіць свае карэктывы. Праз год-другі ад так званага двухмоўя ў некаторых газетаў ("Рэспубліка", "Эканамічная газета") застаўся толькі беларускі назоў. Тое — яскравы прыклад таго, як так званае двухмоўе можа ўмомант ператварыцца ў расійскае аднамоўе. А яшчэ, улічваючы вынікі мінулагодняга рэферэндуму і памкненні ў гэтым накірунку нашага Прэзідэнта, з нашай маўклівай згодай і страхам перад вялікім начальствам рэдактары ў гэтай справе пабягуць навыперадкі. У гэтым пачыне будуць свае "стаханаўцы". Перайсці на друкаванне газетаў на расійскай мове няма ніякіх цяжкасцяў, абы было жаданне. Жадання і жадаючых, як мы бачым, на жаль, вельмі многа.

Летась здарылася адна акалічнасць, якая мяне вельмі ўразіла. У газеце "Свабода", што з першага свайго нумара, нягледзячы ні на якія перашкоды, уціск ды забарону, змагалася за нацыянальную ідэю, дзесьці адразу пасля паразы дэмакратаў на выбарах у траўні 1995 года з'явілася расійскамоўная старонка. Усялякаму, нават самаму недарэчнаму ўчынку знаходзіцца тлумачэнне. Так яно было і ў гэты раз: такая старонка проста неабходна для расійскамоўнага чытача і, вядома, пашырэння кола падпісчыкаў. І ўсё ж, як бы гэта было не праўдападобна, такое тлумачэнне не адпавядае існасці. Няўжо просты чытач, які валодае толькі расійскай моваю, стане дзеля адной толькі старонкі набываць газету "Свабода", дзе звычайна падаецца толькі аналітычны матэрыял. Вядома, што не! На гэту газету падпісваюцца, гэтую газету набываюць людзі, якія аднолькава валодаюць як беларускаю, так і расійскаю мовамі. Я, прыхільнік і чытач "Свабоды" з першага яго нумара, у свой час займаўся яе распаўсюджваннем і з поўнай упэўненасцю магу засведчыць, што газету "Свабода" як старонікі, так і праціўнікі паважаюць за высокі прафесійны ўзровень, нестандартнасць трактоўкі падзеяў, арыгінальны іх каментар. Магчыма, што ад з'яўлення расійскамоўнай старонкі пабольшала (а можа і не!) чытачоў, але гэта яскрава засведчыла пра адыход ад беларускай ідэі. А калі не будзе ў беларускай ідэі яе галоўнага стрыжня — мовы, дык загіне тады і сама ідэя. Калі перастане існаваць сама ідэя, то, відавочна, не будзе беларускай дзяржавы. Я дапускаю думку, а ў тым няма ніякай перашкоды, што пабудаваць дэмакратычную дзяржаву ў нашым краі можна карыстаючыся паўсюдна расійскай моваю, але тады назоў краіны будзе "Белоруссия" і ў яе знікне ўсялякая адметнасць ад усходняга суседа.

Праціўнікі беларускай ідэі, пэўна, вельмі рады такому павароту справы. Рады таму, што расійскамоўных матэрыялаў у газеце "Свабода" пабольшала і сталі яны з'яўляцца нават на першай старонцы. Як я ўжо сцвярджаў: галоўнае — пачатак, працяг не праміне чакаць.

Прадбачу папрокі ў свой адрас: яшчэ адзін жалезабетонны абаронца мовы знайшоўся. Перш, чым казаць такое, удумайцеся. На сённяшні дзень толькі тры (дай Бог, каб я памыліўся!) грамадска-палітычныя газеты на беларускай мове: "Звязда", "Чырвоная змена" ды рэгіянальная гарадзенская "Пагоня". (Беларускамоўныя газеты "Літаратура і мастацтва", "Культура", "Наша слова" і некаторыя іншыя разлічаны на вузкае кола чытачоў і маюць тэматычную накіраванасць.) І гэта пасля столькіх гадоў Адраджэння. Што тут: смяяцца ці плакаць, усё роўна, абы толькі не маўчаць.

А яшчэ вазьміце любую двухмоўную газету і звярніце ўвагу, якія матэрыялы друкуюцца на расійскай мове, а якія — на беларускай. Палітыка, эканамічны аналіз ды зарубежная інфармацыя зарэзерваваны за расійскай моваю. Навіны сялянскага — калгаснага жыцця ды "народныя байкі" аддадзены беларускай мове. Вось такая двухмоўная газетная справядлівасць.

Дык усё ж — што нясе нам двухмоўе?

**Язэп ПАЛУБЕТКА.**

Замежжа

# Дзейнасць беларускіх вайскоўцаў на тэрыторыі Украіны ў 1917-1919 гадах

Першыя беларускія вайсковыя асяродкі ў расійскай арміі пачалі ствараццa пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі. У справе тварэння ўласных вайсковых фармацыяў беларусы значна спазніліся ў параўнанні з іншымі нацыямі, напрыклад палякамі ці ўкраінцамі. Толькі ў канцы кастрычніка 1917 г. адбыўся З'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронта, войскі якога знаходзіліся на Беларусі. З'ездам была склікаaная Беларуская цэнтральная вайсковая Рада пад кіраўніцтвам Сымона Рак-Міхайлоўскага. Мэтаю Рады было фармаванне беларускіх адзінак у расійскай арміі. Пачаўся набор у першы Беларускі полк пяхоты ў Менску.

Пачынальнікам беларускага вайсковага руху на тэрыторыі Украіны быў паручнік Канстанцін Нор. Гэты афіцэр стварaў беларускія гурткі на Паўднёва-Заходнім фронце. На Румынскім фронце падобныя гурткі стварaлі паручнікі Антон Баліцкі, Сцяпан Некрашэвіч і Аляксандр Кучынскі.

3 снежня 1917 года ў Адэсе пачаліся пасяджэнні З'езда беларусаў-вайскоўцаў Румынскага фронта. Кіраваў з'ездам Гайлік. Удзельнікі з'езда выказаліся за абвяшчэнне аўтаномнай Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі і за беларусізацыю тых аддзелаў расійскай арміі, якія перад вайной размяшчаліся на Беларусі. У Адэсе з тылавых частак Румынскага фронта пачалося фармаванне Самадзейнага Беларускага батальёна.

15-20 снежня 1917 года ў Кіеве адбыўся З'езд беларусаў-вайскоўцаў Паўднёва-Заходняга фронта. Старшынём яго быў Ігнат Краскоўскі.

У час, калі ў Адэсе і Кіеве адбываліся з'езды беларусаў-вайскоўцаў, у Менску прайшоў Першы Усебеларускі з'езд. Ён быў разагнаны бальшавікамі 18 снежня 1917 г.

Атрымаўшы звесткі аб разгоне з'езда, дэлегаты з'езда ў Кіеве прынялі спецыяльную рэзалюцыю, патрабуючы ў ёй ад бальшавіцкага Савета народных камісараў вызвалення арыштаваных і прыцягнення вінаватых да адказнасці. Аднaчасова з'езд звярнуўся да ўсіх беларусаў з заклікам да нацыянальнага самавызначэння і яднання вакол З'езда Паўднёва-Заходняга фронта дзеля абароны "беларускага люду, сваёй радзімы Беларусі".

Апроч Кіева, значным цэнтрам беларускага нацыянальнага руху на Украіне была Адэса. У самой Адэсе знаходзілася тады 20 000 беларусаў, а разам з яе наваколлем — каля 100 000. Былі гэта пераважна ўцекачы і вайскоўцы. Першай беларускай арганізацыяй у Адэсе стала Беларуская вайсковая Рада, створаная З'ездам беларусаў-вайскоўцаў Румынскага фронта. У сувязі з беларусізацыяй асобных частак Румынскага фронта там быў утвораны Беларускі этапны канцэнтрацыйны пункт. Вынікам таго стала навязанне моцных сувязяў паміж дзеючымі ў Адэсе цывільнымі беларускімі арганізацыямі і беларускім вайсковым рухам. Побач з беларускай вайсковай арганізацыяй у горадзе дзейнічала культурна-асветніцкая арганізацыя "Беларускі гай".

Пасля захопу Адэсы бальшавікамі Беларуская вайсковая Рада спрабавала працягнуць фармаванне беларускіх частак. Аднак у выніку бальшавіцкай прапаганды беларускія аддзелы распадаліся.

Пасля адыходу бальшавікоў з Адэсы і замацавання там украінскіх уладаў адбылося супольнае пасяджэнне Беларускай вайсковай Рады і "Беларускага гаю", на якім быў скліканы Беларускі народны камісарыят. Камісарыят ставіў перад сабой задачу абароны інтарэсаў беларусаў у Адэсе і ваколіцы. Яго кіраўнікамі былі Трафімаў, С.Некрашэвіч, А.Баліцкі, Янушкевіч, Г.Козел. Камісарыят намагаўся стварыць у Адэсе 30 беларускіх пачатковых школ і гімназію. Беларусы спрабавалі таксама працягнуць стварэнне нацыянальных вайсковых адзінак, аднак гэтая ініцыятыва была прыпынена ўкраінскімі ўладамі.

Калі да Адэсы дайшла вестка пра абвяшчэнне Беларускай народнай рэспублікі, 21 красавіка 1918 г. адбыўся сход беларусаў горада і яго ваколіц. Прысутныя прынялі рэзалюцыю ў падтрымку незалежнай беларускай дзяржавы. Беларускія ўлады прызначылі С.Некрашэвіча консулам БНР у Адэсе.

Чарговы этап дзейнасці беларускіх вайскоўцаў у Адэсе пачаўся ў 1919 годзе. У студзені ў горад прыехаў паручнік інжынерных войскаў Аляксандр Бахановіч, які ў 1917-1918 гадах кіраваў Цэнтральным камітэтам грамадскіх арганізацый Гродзенскай губерні ў Петраградзе. Пасля разгону камітэта бальшавікамі Бахановіч пераехаў на Украіну.

У Адэсе Бахановіч навязаў сувязь з Беларускім вайсковым цэнтрам. Гэтая арганізацыя, верагодна, выконвала ў новых умовах функцыі Беларускага нацыянальнага камісарыята. Кіраўніком Цэнтра быў С.Некрашэвіч. Бахановіч прапанаваў, каб Беларускі нацыянальны цэнтр узяў на сябе абавязкі Часовага краёвага ўрада Беларусі. У адрозненне ад кіраванага Антонам Луцкевічам урада БНР, які супрацоўнічаў з немцамі, Бахановіч быў прыхільнікам супрацоўніцтва з расійскімі "белымі". Як лічыць А.Сідарэвіч, Бахановіч ашукаў генерала Антона Дзянікіна, які з задавальненнем прыняў звестку аб утварэнні Часовага краёвага ўрада Беларусі. Існаванне такога ўрада магло спатрэбіцца Дзянікіну як довад падтрымкі ягонай палітыкі беларусамі. Верагодна, генерал Дзянікін абяцаў прызнаць Часовы краёвы ўрад Беларусі і прапанаваў супольнае фармаванне беларускага войска.

Услед за А.Бахановічам у Адэсу прыехалі міністр вайсковых справаў урада БНР палкоўнік Яўген Ладноў і сябра Рады БНР капітан Яўген Бялевіч. У выніку зробленых імі захадаў А.Бахановіч быў выселены з Адэсы французскімі ўладамі ў лютым ці сакавіку 1918 г.

Аднак менавіта А.Бахановіч разам з былым консулам БНР у Кіеве Рыгорам Базарэвічам прыспешылі фармаванне беларускага войска ў Адэсе. На погляд міністра юстыцыі ва ўрадзе БНР Аляксандра Цвікевіча, у Адэсе ў той час сабралася "ўся беларуская чорная сотня". 13 студзеня 1919 г. з афіцыйным лістом да генерала А.Бэртэло, кіраўніка сілаў Антанты ў тым рэгіёне, звярнуўся ад імя Беларускага нацыянальнага цэнтра яго кіраўнік С.Некрашэвіч. Ён паведаміў, што Цэнтр прыняў на сябе абавязак стварэння беларускага ўрада. Ён таксама прапанаваў арганізацыю 40-тысячнай беларускай арміі дзеля барацьбы з бальшавікамі. На пасаду кіраўніка арміі быў прапанаваны генерал Павел Вент, які ў канцы 1918 года быў начальнікам штаба арміі БНР (рэчаісна не існуючай). У лістападзе 1918 г. урад А.Луцкевіча выслаў генерала Вента на Украіну з мэтаю азнаямлення ўкраінскіх вайсковых уладаў з ваеннай сітуацыяй у Беларусі.

З дапамогаю англічан і французаў у Адэсе была створаная беларуская дывізія колькасцю каля 1000 чалавек. Але гэтае фармаванне не ўдалося перавесці ў Беларусь. Пасля паразы арміі генерала Дзянікіна і ўпадку Адэсы ўвосень 1919 г. беларуская дывізія распалася.

У 1919 г. у Адэсе існаваў таксама Беларускі гусарскі полк. Камандаваў ім палкоўнік І.Радштэйн.

Дзейнасць беларускіх вайскоўцаў на тэрыторыі Украіны адбывалася ў складаныя часы. Напачатку беларусы шчыльна супрацоўнічалі з украінцамі як у Беларусі, так і на Украіне. Як піша выдатны дзеяч Беларускай цэнтральнай вайсковай Рады Канстанцін Езавітаў, сходы Украінскай вайсковай Рады Заходняга фронта вельмі часта адбываліся ў сядзібе БЦВР у Менску. У час пераследу беларускага нацыянальнага руху бальшавікамі на пераломе 1917-1918 гадоў яго дзеячы знаходзілі падтрымку на Украіне.

Беларуска-ўкраінскія стасункі пагоршыліся пасля падпісання Украінай трактата з цэнтральнымі дзяржавамі 9 лютага 1918 г. у Бярэсці, бо вынікам таго стала далучэнне да Украіны Беларускага Палесся. Тады было прыпынена фармаванне беларускіх вайсковых адзінак на Украіне. Здаецца, гэта вынікала з адмоўнага стаўлення нямецкіх акупацыйных уладаў да беларускіх, роўна як і да ўкраінскіх армейскіх фармацый.

Толькі ў лістападзе 1919 г. урад БНР А.Луцкевіча заключыў вайсковае пагадненне з украінскім Дырэктаратам. Умова прадугледжвала арганізацыю на Украіне беларускага войска. Украінскі ўрад абавязваўся прыступіць да стварэння беларускіх ахвотніцкіх адзінак. Іх арганізацыяй меў кіраваць палкоўнік Бярозін. Але трагічнае становішча абодвух урадаў зрабіла адпачатку немагчымым ажыццяўленне гэтай умовы.

Лёсы беларускіх вайскоўцаў на Украіне патрабуюць глыбейшага вывучэння крынічных дакументаў. Аднак нават павярхоўнае знаёмства з гэтай праблемай дазваляе сцвярджаць, што гэтыя людзі ўнеслі істотны ўклад у барацьбу свайго народа за незалежнасць.

Алег ЛАТЫШОНАК (Bialoruskie zeszyty historyczne, 1(5), 1996)
Пераклад У.Панады.

*Тысячы нашых суайчыннікаў — салдатаў і афіцэраў арміі СССР — пабывалі ў Афганістане. Там, на чужой зямлі, яны былі акупантамі, тымі, хто распальваў полымя грамадзянскай вайны, нескончанай і дагэтуль. Але спыняюць гэтую вайну не яны, а іншыя людзі —*

# ТАЛІБЫ

"Чаму ты плачаш, мама? Ты выхавала мяне сапраўдным талібам, я прызвычаіўся да стрэлаў і полымя. Калі я не прынясу Афганістану закон ісламa, мне не будзе месца ў раі". Гэтая песня складзеная талібамі — студэнтамі-афганцамі, будучымі мусульманскімі святарамі. Сёння яны далёка пасунуліся ў справе дасягнення мэты, пра якую гаворыцца ў песні. Пакінуўшы рэлігійныя школы Афганістана, Пакістана ды іншых мусульманскіх краін, яны далі клятву пакласці крэс забойствам, рабаўніцтву, гвалту і карупцыі ў сваёй краіне. Яны стварылі моцны рух "Талібан", які стаў новым удзельнікам грамадзянскай вайны ў Афганістане. За апошнія паўтара года ён авалодаў большай часткаю краіны і аднавіў там дзеянне забытых пры камуністычнай уладзе старых законаў.

На пачатку стварэння руху, калі талібы прыйшлі да ўлады ў Кандагары, яны нават забаранілі выкарыстанне дарог і машын, як справу, не цалкам адпаведную законам ісламa. Але і тое, і другое спатрэбілася ім самім дзеля вядзення вайны, і забарона была забытая. Аднак ва ўсіх іншых сферах жыцця талібы прапагандуюць скрайне артадаксальную версію сваёй веры, забараніўшы ўсе гульні — нават футбол і шахматы, а таксама радыё, тэлевізію і нават асобныя стылі музыкі.

Захапіўшы ў мінулым годзе горад Герат, талібы аднавілі законы ісламa і там. Цяпер жанчыны горада могуць выходзіць на вуліцы толькі пад даглядам мужчын. Яны мусяць апранаць традыцыйнае адзенне, якое пакрывае іх з ног да галавы. Талібан закрыў усе школы для дзяўчат і адаслаў настаўніц дадому. Затое класы ў школах для хлопцаў выраслі з прычыны недахопу настаўнікаў — выкладаць жанчынам забаронена. Еўрапейцы і нешматлікія еўрапеізаваныя афганцы лічаць гэта цемрашальствам і парушэннем правоў жанчын, але для астатніх тое, што робіцца, называецца аднаўленнем нацыянальных традыцый.

Старыя законы аднаўляюцца паўсюль, дзе ўладу маюць талібы. Карэспандэнту BBC даводзілася назіраць за тым, як мула — мусульманскі святар у горадзе Хост перад вялікім зборам людзей зачытаў прысуд, вынесены двум забойцам, якія апынуліся ў руках талібаў. Каб паглядзець на іх публічнае пакаранне смерцю, на гарадскім пляцы сабраліся сотні людзей. Забойцы былі расстраляныя бацькамі іхніх ахвяраў. Гэткі спосаб адплаты, які мае назву гісаз, шырока ўжываецца талібамі. Шырока ўжываюць яны і такі спосаб пакарання, як адсяканне рук у тых, хто крадзе альбо рабуе.

Гэткія спосабы ўсталявання справядлівасці непакояць праваахоўныя арганізацыі. Спецыяліст "Міжнароднай амністыі" Абас Фаіз разам з іншымі ўжо падрыхтаваў цэлы рапарт аб становішчы з правамі чалавека ў Афганістане. Захапіўшы летась Герат, паведамляюць яны, талібы забівалі на вуліцах бяззбройных людзей і не адразу дазвалялі іх хаваць, каб застрашыць іншых. Хто і за што быў забіты талібамі, супрацоўнікі "Міжнароднай амністыі" не тлумачаць.

Нягледзячы на гэта, пасля ўваходу байцоў Талібана на пачатку верасня ў Джалалабад мноства людзей выйшла на вуліцы. Яны віталі талібаў і кідалі ім пад ногі грошы. Яны віталі тых, хто, на іх думку, зможа спыніць грамадзянскую вайну, даць ім асабістую бяспеку і некарумпаваны ўрад. Якраз гэта прапануе рух талібаў.

Сёння краіны, якія калісьці падтрымалі Талібан, з перасцярогаю глядзяць на яго, бо рух абсалютна бескампрамісна трактуе законы веры і патрабуе выканання іх ад усіх афганцаў. Але стомленыя вайной і падманутыя насаджаным Саветамі ўрадам людзі робяць свой выбар на карысць талібаў, якія не толькі абвяшчаюць прыярытэт традыцыйных каштоўнасцяў, але і абараняюць іх са зброяй у руках.

# Народны прэзідэнт

На выбарах, якія адбыліся ў незалежнай Босніі ў сярэдзіне верасня, большасць галасоў была пададзена за Алію Ізэтбегавіча, які істотна апярэдзіў правадыра баснійскіх сербаў Краешніка і канкурэнта з уласнага лагера Сілайджыча. Ізэтбегавіч, які на працягу больш чым трох гадоў вайны быў лідэрам баснійскіх мусульман, стаў самым уплывовым чалавекам у краіне. Ён не зрабіўся аднаасобным кіраўніком краіны, бо згодна з умовамі Дэйтанскага пагаднення ўладу ажыццяўляе калектыўнае прэзідэнцтва — тры асобы, прадстаўнікі трох этнічных групаў Босніі — мусульман, харватаў і сербаў, і прэзідэнцкія рашэнні павінны прымацца імі аднагалосна. Але з гэтага правіла ёсць выключэнне: у стасунках Босніі з іншымі дзяржавамі краіну прадстаўляе адна асоба, атрымаўшая найбольш галасоў на выбарах. Гэтым чалавекам стаў Алія Ізэтбегавіч.

У 80-х гадах Ізэтбегавіч быў тыповым прадстаўніком касмапалітычнай інтэлектуальнай эліты Сараева, хіба што, у адрозненне ад большасці, усё жыццё ён заставаўся шчырым мусульманінам. Ён ніколі не быў ісламскім фундаменталістам, але за апошнія гады яго погляды ў сферы міжрэлігійных і міжэтнічных стасункаў сталі больш бескампраміснымі. Таму ў час грамадзянскай вайны менавіта з ягоным імем звязваліся спадзяванні на захаванне Босніі як адзінай дзяржавы. Супраціў Ізэтбегавіча ўсялякім спробам і планам падзелу Босніі, ягонае імкненне не дапусціць перавагі аднаго боку ў грамадзянскай вайне прыцягнулі да яго агульную ўвагу і прымусілі палітыкаў Еўропы па-іншаму глядзець на будучыню Сербіі.

Калі ў 1992 годзе Боснія абвясціла незалежнасць ад Югаславіі, яе першым прэзідэнтам стаў Ізэтбегавіч. У сакавіку таго года ён з аптымізмам гаварыў аб чаканым прызнанні сваёй краіны Еўрапейскай супольнасцю і ЗША. Але неўзабаве ў маладой дзяржаве пачалася грамадзянская вайна. Шматнацыянальная Боснія раскалолася на варагуючыя монаэтнічныя тэрыторыі. І чым больш міжнародная супольнасць дэманстравала сваю няздольнасць спыніць сербскую агрэсію, тым большыя намаганні да таго прыкладаў прэзідэнт Ізэтбегавіч. Нечакана для сваіх праціўнікаў і прыхільнікаў ён — былы універсітэцкі прафесар, выкладчык права — аказаўся выдатным вайсковым кіраўніком. "Мы не патрабуем, каб амерыканцы гінулі за наш край. У нас ёсць свае людзі, гатовыя ваяваць. Але мы не маем зброі. Нам патрэбная менавіта зброя", — казаў гэты стары чалавек, вядомы сваім мяккім характарам. Калі ў мінулым годзе ў час блакады Сараева сербы пачалі абстрэл горада з навакольных узгоркаў, Ізэтбегавіч пешшу праз увесь горад хадзіў у сваю сядзібу. Гэта была не праява папулізму, а спроба падтрымаць дух людзей. У час, калі тыя імкнуліся пакінуць горад, прэзідэнт падзеленай вайною дзяржавы заставаўся ў сваёй сталіцы.

Цяпер яму 71 год. У Босніі настаў мір і ад лідэра патрэбныя іншыя якасці — талерантнасць і здольнасць да кампрамісу. Ізэтбегавіч аказаўся патрэбным баснійцам і цяпер.

# Узбекістан: святло ў канцы тунеля?

У снежні 1992 года ў Бішкеку — сталіцы Кыргызтана — адбылася канферэнцыя, прысвечаная правам чалавека ў краінах Сярэдняй Азіі. На наступны па яе сканчэнні дзень там жа, у Бішкеку, асобы ў цывільным затрымалі старшыню Таварыства абароны правоў чалавека Узбекістана Абдуманоба Пулатава і яшчэ двух узбекаў — удзельнікаў канферэнцыі. У машыне без нумароў іх адвезлі ў Ташкент, дзе суд вырак Пулатава на турэмнае зняволенне за ганьбаванне прэзідэнта. Дваццаць іншых узбекаў — удзельнікаў Бішкекскай канферэнцыі — пасля вяртання на радзіму былі выкліканыя на допыт, на якім кожны з іх мусіў пісаць справаздачу аб сваім удзеле ў канферэнцыі.

Частка гэтых людзей была звольнена з працы, супраць іншых усчалі крымінальныя справы. За ўсімі пачалося цікаванне. У выніку да 1994 года практычна ўсе іншадумцы былі змушаныя змоўкнуць альбо выехаць з краіны. Вострая рэакцыя міжнародных праваахоўных арганізацый змусіла ўлады амнісціраваць Пулатава пасля абвяшчэння прысуду. Але ён быў змушаны шукаць палітычнага прытулку ў ЗША.

Летась у чэрвені пад час побыту ў ЗША прэзідэнт Узбекістана Карымаў публічна заявіў: Пулатаў можа вярнуцца на радзіму і не баяцца пераследу. А ў першай палове верасня ў сталіцы Узбекістана Ташкенце адбыўся семінар, на якім разглядаліся праблемы правоў чалавека ў краіне. Але ці стала гэтая падзея сведчаннем паляпшэння сітуацыі ў гэтай сферы? Вось што кажа сам Пулатаў:

— Я бачу маленькае святло ў канцы вельмі даўгога тунеля. Гэта так, хаця асобныя мае калегі называюць мяне аптымістам. Вельмі павольна, па двое-трое вызваляюцца зняволеныя іншадумцы. Ёсць звесткі аб тым, што з пачатку гэтага года перасталі падкладаць наркотыкі і зброю дысідэнтам, каб арыштоўваць іх паводле фальшаваных абвінавачванняў. Аслаблі рэпрэсіі супраць апазіцыі, асабліва свецкай. Здаецца, няма яўнага цікавання. Прэзідэнт Карымаў прапанаваў мне прыехаць ва Узбекістан, і я магу працягваць тут сваю дзейнасць.

Аднак не ўсе ва Узбекістане падзяляюць аптымізм Пулатава. Адзін з такіх людзей — былы сустаршыня забароненага ўладамі нацыянальнага руху "Бірлік" Шухрат Ісматулаеў — сцвярджае:

— Мы вельмі спадзяёмся на хаця б невялікія зрухі, на тое, што за словамі паследуюць справы.

Падобнай думкі прытрымліваюцца і ўзбекскія дзеячы, што былі змушаныя шукаць прытулку за мяжою, напрыклад, вядомы пісьменнік Едгар Абід. Ён не мае намеру вярнуцца, не верыць словам прэзідэнта, бо ягоная сям'я ў Ташкенце па-ранейшаму адчувае ўціск з боку ўладаў.

Нядаўна прэзідэнт Карымаў публічна заявіў: ён будзе караць чыноўнікаў, якія аказваюць уціск на прэсу. Але друк краіны, як і раней, цалкам кантралюецца ўрадам і прэзідэнтам. Канфіскуюцца нумары нават замежных газет, у якіх змешчаныя публікацыі з крытыкай узбекскага кіраўніцтва. Як і раней, у турмах утрымліваецца мноства іншадумцаў.

Ці споўняцца спадзяванні ўзбекаў на лепшае — пакажа час.

# Новая мова Францыі

Усе народы свету імкнуцца абараніць свае мовы ад уплыву іншых. Але дзе праходзіць мяжа паміж узбагачэннем мовы, набыццём новых паняццяў ды формаў і пашырэннем лексічнага запасу коштам пазычання з іншых моваў? Сёння гэтае пытанне ставяць перад сабою французы.

Ускраінныя раёны Парыжа на працягу апошніх дзесяцігоддзяў былі заселеныя імігрантамі — выхадцамі з Марока, Алжыра ды іншых краінаў — былых калоній Францыі. Гэта адлюстравалася на ўсіх сферах жыцця сталіцы Францыі. Напрыклад, цяпер існуе ці мала школаў, сярод вучняў якіх французскія дзеці складаюць нязначную меншасць. Школьнікі гэтых класаў разумеюцца між сабой моваю, вельмі адметнай ад той, што гучыць на цэнтральных вуліцах Парыжа.

Каб зразумець гэтых маленькіх грамадзян Францыі, парыжанам старэйшага ўзросту патрэбны перакладчык. Гэта не перабольшванне: іхняе "новамоўе" часткова грунтуецца на прынцыпе вымаўлення словаў задам наперад. У дадатак да перавернутых французскіх словаў ужываюцца іншыя, пазычаныя з родных моваў і дыялектаў (пераважна афрыканскіх) маленькіх імігрантаў. Так, напрыклад, паліцыянтаў тыя называюць арабскім словам, перакладаным як "змяя". Гэткіх сінонімаў мноства, і знаходжанне агульнай мовы з новым пакаленнем ператвараецца для французаў з ідыёмы ў рэальную праблему.

— Ад пачатку французская мова была незаконным дзіцем лацiны,— мяркуе выкладчык французскай мовы Барыс Сігуэн. — Акрамя лацінскіх, французская мова пазычыла мноства словаў з іншых моваў — столькі, колькі патрэбна, каб апісаць рэальнасць, успрынятую нашымі пачуццямі. Сёння гэты моватворчы працэс, на думку настаўніка, атрымаў новы працяг.

Два гады таму Сігуэн звярнуў увагу на тое, што ягоныя вучні з настаўнікамі гавораць адной моваю, а на вуліцы між сабою — іншай. Настаўнік папрасіў дзяцей занатаваць вулічныя словы, не ўжываныя імі ў школе. Вынік яго зацікаўлення — слоўнік французскага арго, які можна набыць у кожнай кнігарні французскай сталіцы. Выдавецтва чакае добрага зыску ад продажу гэтай кнігі, якая выклікала сапраўдны шок у мовазнаўцаў з французскай Акадэміі.

Падрыхтаваў У.П.

